# Гаспадарчы аддзел.

## Абрэзка пладовых дрэваў.

Садамі сваімі, нажаль, мы ня можам пахваліцца. Перш за ўсё, у большасьці нашых вясковых садоў дрэвы кепскіх гатункаў, а знача, як ураджай, так і якасьць пладоў—мала задавальняючыя. А навет і там, дзе сады засаджаны добрымі гатункамі, гаспадары садоў часта гавораць, што добрыя гатункі ў нашых умовах дзічэюць, што яны мала трывалкія і даюць позна дасьпяваючыя плады. Уся віна звальваецца на клімат і глебу. Праўда, што клімат і глеба адыгрываюць вялікую ролю ў садоўніцтве, але ня меншую ролю адыгрывае догляд, а ў першую чаргу—правільная абрэзка.

Карысьці ад правільнае абрэзкі шмат, і яе робяць з рознымі мэтамі. Па-першае, у маладых перасаджаных шчэпаў укарочваюць галінкі, каб зьменшыць выпараваньне, якое адбываецца праз зялёныя часткі расьліны, бо слабыя карані ў першы год па перасадцы ня могуць даваць патрэбнае колькасьці вады. Далей таксама праводзіцца абрэзка шчэпаў на другі год пасьля перасадкі — і гэта ўжо з мэтаю фармаваньня кароны, каб выклікаць правільнае разьмяшчэньне і патрэбную колькасьць асноўных галінаў. Яшчэ абрэзкаю дасягаецца даўгатрывалкасьць дрэваў, а самае галоўнае—павышаецца як колькасьць, так і якасьць ураджаю. Часамі абрэзваюцца ўсе галіны ў старых дрэваў з мэтаю абмалоджаньня іх. Вось-жа аб тым, калі, як і з якою мэтаю трэба абрэзваць дрэвы, мы тут і пастараемся каротка сказаць.

У сьвежа пасаджаных шчэпаў, асабліва ў сухім стане, калі пасаджаны позна вясной ці маюць слабое карэньне, трэба галінкі прырэзаць на $1/3$ або $1/2$ іх першапачатковае даўжыні. Інача́й, пры слабасьці карэньня, маглі-б разьвінуцца пупышкі толькі на вяршках галінак, дзякуючы чаму карона ня мела-б патрэбнае формы. Прырэзваць трэба ніжнія галінкі менш за вышэйшыя, а гэта з тае прычыны, што сокі ў дзераве лягчэй ідуць у напрамках болей простых, знача, у працуйным разе, болей сокаў забрала-б верхняя частка. Наагул, пры абрэзцы трэба старацца, каб абрэзаная карона мела выгляд стажка́, — тагды дрэва найлепей выкарыстоўвае сонечнае сьвятло.

На другі год па пасадцы звычайна робіцца фармаваньне кароны. Дзеля гэтага ў шчэпах пакідаюць толькі 4 - 5 асноўных галінак (выходзячыя беспасрэдна з пня); на праваднiку (верхняя галінка, зьяўляючаяся простым прадаўжэньнем пня) адлічваецца шэсьць-сем пупышкаў, а вышэй знаходзячаяся частка праваднiка абрэзваецца.

Вышэйшы пупышак дасьць потым прадаўжэньне праваднiка, а ніжэйшыя пупышкі—другі паверх кароны. Паступова пераходзячы з вяршка ўніз галінкі, як ужо гаварылася, трэба прыцінаць усё меней і меней. Бывае часта, што разгаліненьне шчэпаў непамыснае; тагды трэба добра абмяркаваць, якія галінкі абрэзаць, каб дрэўцы мелі правільную форму. Бывае, што шчэпа пачала расьці так, што няма ніякага праваднiка. Тагды трэба выбраць галінку, якая найбо-лей наблiжаецца да сярэдзіны кароны і найпрасьцей расьце ўгару, дый фармаваць яе, як праваднiка; пры гэтым, трэба на ёй старацца адрэзаць вяршок над тым пупышкам, які зьвернены да сярэдзіны кароны.

Пры абрэзцы трэба заўсёды рэзаць над тым пупышкам, які зьвернены навонак; вынятак з гэтага правіла можа быць толькі для тых гатункаў дрэваў, у якіх вельмі зьвісае гальлё, як у Глегераўкі, Цытрыноўкі і інш.

Раз добра сфармаваная карона болей ужо не фармуецца. У далейшыя гады карона толькі прарэджваецца, і выкідаюцца непатрэбныя галінкі. Дзякуючы звальненьню ад непатрэбных галінак, дзерава становіцца болей трывалкім. Без прарэджваньня сокі разьдзяляюцца на ўсе галінкі, і іх звычайна тагды бывае замала для раджайных галінак, шмат галінак засыхае, дзерава слабее і становіцца недаўгавечным. Аднак, абрэзку трэба рабіць умела. Абрэзку трэба рабіць так, каб раджайных галінак адрэзалася як найменш. У маладых-жа дрэўцаў не заўсёды можна выразаць і лішнія галінкі. Так, галінкі, зьявіўшыяся ўнізе наўкола маладзенькага пня, ня трэба зараз-жа абразаць, а трэба пачакаць, калі дрэўца добра ўмацуецца, бо вядома, што колькі ў гары дрэўца пускае галінак, гэтулькі ўнізе—каранёў. Таксама ня варта абразаць на пні газінак у дрэўцаў нядаўна прышчэпленых, а толькі на трэйці год.

Прараджаючы карону ў старэйшых дрэваў, трэба таксама ведаць, якія галінкі можна выкінуць, а якія мусяць застацца. Садаводы разрозьніваюць 5 гатункаў галінак у пладовых дрэваў, а ўласьне: галінкі дрэўныя, галінкі фальшыва-дрэўныя, галінкі дзікія, паразітныя галінкі ці ваўчкі і нарэшце—галінкі пладовыя (раджайныя).

1) Галінкі дрэўныя — гэта сільныя галіны, якія надаюць форму кароне. Абрэзваць іх трэба з вялікаю ўвагаю. Калі яны вельмі даўгія і буйныя, тагды адрэзваюць канцы іх даўжынёю ў 7-15 цэнтым.

2) Галінкі фальшыва-дрэўныя. Гэтыя галінкі растуць у бакі з дрэўных, маюць плоскія пупышкі і значна ад сябе аддаленыя. Такія галінкі трэба без ваганьня абразаць.

3) Галінкі дзікія — гэта ценькія малыя галінкі, якія ня маюць пладовых пупышкаў; іх таксама трэба бязумоўна абразаць.

4) Ваўчкі ці паразітныя галінкі—гэта тыя галінкі, якія растуць на дрэўных галінах, часта грубыя і стромка растуць у гару; скурка на такіх галінках гладкая, а пупышкі плоскія і значна ад сябе аддаленыя. Такія галінкі трэба заўсёды выдаляць, хіба што трэба бывае запоўніць пусты прастор у кароне; тагды іх прырэзваюць на 7-10 пупышкаў.

5) Галінкі пладовыя (раджайныя) танчэйшыя за дрэўныя; пупышкі ў іх буйныя і блізка ад сябе расстаўлены. Такія галінкі, разаумела, трэба пакідаць, хіба што прырэзаць толькі даўжэйшыя із іх, а рэшту можна пакінуць, прырэзаўшы караценька вяршок пры пупышку лісьцяным. Таксама часамі іх прыходзіцца выкідаць, але гэта толькі там, дзе яны загушчаны.

**С. Т.**

Драматычнай Майстроўні, грамадзяне! Няўжо мы, у іншых справах такія скорыя і энэргічныя, у гэтую так балючую і даўно крычачую справу ня ўложым сваіх высілкаў? Тэатр гэта наш адзіны мост да збліжэньня ўсіх беларускіх сілаў на культурнай працы. Бел. Драматычная Студыя! Сталы бел. тэатр, які абслугоўваў-бы і Вільню, і ўсю Зах. Беларусь!—вось нашы заданьні ў сучасную хвіліну. А тады й зьнікне той пагляд, што тэатр і сцэна існуе толькі дзеля таго, каб выціснуць з грамадзянства патрэбныя грошы на тыя ці іншыя мэты. Зьменіцца і ўплыў бел. сцэны на публіку, часьць якой, пазбаўленая наагул гэтага ўплыву, будзе з ахвотай прыходзіць ня толькі на танцы, але й на спэктакль.

**Былы вучань ВБГ.**

# Корэспондэнцыі.

### Зьдзекі ў гміне.

(Забрэзская гміна, Валожынскага пав.).

Бывала, у царскія часы ў гміне было ўсяго „начальства“: старшыня, пісар і памоцнік пісара. І калі прыдзеш за якой справай, дык у два шчоты і гатова, ня глед ячы на тое, што нават былі гмінныя суды. А цяпер сядзіць войт, заступнік войта, пісар, два памоцнікі, два вольна-наёмныя пісцы, чатыры сэквэстратары і „дрогомістр“—усяго 12 асоб. А прыдзеш у гміну, дык трэба цэлы дзень прабыць, каб якую маленкую справу ўладзіць. Увайшоўшы ў канцэлярыю гміны, селянін ня ведае да каго зьвярнуцца. Падыйдзе да аднаго, — той адсылае да другога, другі—да трэцяга і г. д. І гэтак таўчэцца бедны цэлымі гадзінамі, бо ж кожны „вельмі заняты“,—а яшчэ з яго і пасьмяюцца, хоць з ягоных крывавых злотых гэныя 12 чалавек сыта жывуць.

20-га студзеня с. г. давялося мне быць у Забрэзскай гміне і сваімі вачыма бачыць гэткі зьдзек над бедным, згалелым беларусам—датаго-ж інвалідам. Гэта быў селянін з в. Кабыльчыцы К. Войтка. Ен у сусьветную вайну страціў здароўя на 50 прац., меў аб гэтым расейскія дакумэнты, дый польская камісія тое ж прызнала, але дапамогі гэты чалавек ніяк не даб'ецца. Зжалілася над ім польская вучыцелька з Кабыльчыц і напісала яму паданьне з просьбай аб дапамозе. Напісала дый сама падпісала, хоць інвалід гэты грамотны, ды яшчэ дадала: „z poważaniem“. Дык вось гэтае паданьне было зьвярнена ў гміну, каб гміна дала знаць, што за адвакат такі пісаў. Дзеля гэтага і паклікалі Войтку, і яго пачаў „бадаць“ памоцнік пісара. На запытаньне, колькі мае гадоў, Войтка, страціўшыся, сьпярша абмылкова сказаў „28“ але ўраз папраўіўся, што радзіўся ў 1896 годзе. Замест палічыць, колькі гэта будзе, гэны панок як зараве: „Кламеш!“ — ды так пачаў зьдзекавацца над ім, што гэны інвалід ня вытрымаў і з жалю пачаў плакаць. Народу была поўная канцэлярыя, і ўсе ў душы спагадалі пакрыўджанаму інваліду, але баяліся заступіцца за яго перад гміннымі валадарамі. Сядзеў тут жа побач і войтасаднік і як быццам нічога ня чуў і ня бачыў. Але голас аднаго прысутнага, грамадзяніна М. А. Станкевіча з вёскі Гародзькі, разбудзіў пана войта. Станкевіч сказаў да яго: „Пане войце, што ж гэта за парадак у вас у гміне? Вы дазваляеце зьдзекавацца над чалавекам! Трэба ведаць—давялі чалавека да сьлёз!“ На гэта войт спакойна адказаў, што Войтку нічога ня робяць (—у морду, бач, яшчэ ня б'юць!), а ён плача ўжо ня першы раз... Інвалід, пачуўшы, што за яго нехта заступіўся, крыху пасьмялеў і, каб паказаць сваю беднасьць, зараз расперазаў вяровачку, скінуў з плеч кажушок — і стаіць у нейкай благенькай апранасе без рукавоў, у дзярвяніках на нагах, як страшыдла. Усім прысутным сьлёзы на вачох навярнуліся ад жалю,—не ўзварушыліся толькі тыя, што з гэткае галіты жывуць ня бедна...

**Прысутны.**

# Паштовая скрынка.

**П. З—му, Пружаншчына.** Атрымалі. Выкарыстаем. Дзякуем. Пісьмо хутка будзе паслана.

**„Тутэйшаму“. Гарадок (Беласточчына).** Вершы Вашы даволі ўдатны. Зьмесьцім.

**„Ачуняўшаму“.** Вашага фэльетону пра „кс. Распуціна“ не надрукуем. Як ні нізка стаіць гэты „дзеяч“ з маральнага пагляду, мы такім аружжам не ваюем. Гэта — спэцыяльнасьць „Крыніцы“.



Рэдактар-выдавец: М. СІНЯУСКІ. Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая вул. 22